# Голас Радзімы

№ 22 (2060)
2 чэрвеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**Цікавае і вясёлае фальклорна-літаратурнае свята «Цудоўная краіна Несцераўка» прайшло нядаўна ў вёсцы Пакалюбічы, што на Гомельшчыне. Яго ўдзельнікамі сталі мясцовыя хлопчыкі і дзяўчынкі, а таксама юныя танцоры, спевакі, мастакі, майстры з навакольных вёсак і з Гомеля. (Фотарэпартаж са свята змешчаны на 7-й старонцы).**

# НАПЯРЭДАДНІ XIX УСЕСАЮЗНАЙ ПАРТКАНФЕРЭНЦЫІ

Савецкая прэса надрукавала Тэзісы Цэнтральнага Камітэта КПСС да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, якая адкрыецца 28 чэрвеня ў Маскве. Гэты важны дакумент заняў цэнтральнае месца ў жыцці савецкіх людзей, выклікаў шырокі міжнародны рэзананс.

Тэзісы ўяўляюць сабой платформу для дыскусіі па жыццёва важных пытаннях. У іх адзначаецца тое, што ўжо распачата, зроблена за тры гады, якія прайшлі пасля памятнага красавіцкага Пленума ЦК КПСС (1985 года), і тое, што неабходна здзейсніць на цяперашнім этапе перабудовы, каб знішчыць перашкоды, што стаяць на яе шляху, даць новы магутны стымул працэсу аднаўлення.

Мэта перабудовы, гаворыцца ў Тэзісах ЦК КПСС, — у поўнай меры раскрыць гуманістычную прыроду і стваральную магутнасць сацыялізму. Дасягненне гэтай мэты неаддзельнае ад развіцця дэмакратыі і публічнасці, самакіравання народа, радыкальнай эканамічнай рэформы, маральнага ачышчэння грамадства, выяўлення творчых магчымасцей, якія заключаны ў свабодным і ўсебаковым развіцці чалавека. Усе гэтыя аспекты распрацаваны ў дзесяці раздзелах Тэзісаў.

У дакуменце адзначаецца, што характэрная рыса нашага часу — станаўленне рэальнага плюралізму думак, адкрытае супастаўленне ідэй і інтарэсаў. На платформе перабудовы адбываецца палітычная кансалідацыя рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі, усіх сацыяльных сіл. Савецкія людзі сваёй працай і грамадскай актыўнасцю аказваюць усё больш дзейсную падтрымку рэвалюцыйным пераўтварэнням у краіне. Сёння гэта — галоўная тэндэнцыя ў грамадскім развіцці, важнейшы вынік першага этапа перабудовы.

Разам з тым працэс перабудовы ідзе супярэчліва, праз пераадоленне цяжкасцей, барацьбу новага са старым. Асабліва жывучымі аказаліся перажыткі кансерватыўнай, бюракратычнай свядомасці. Марудна здаюць пазіцыі прыхільнікі дагматычных уяўленняў аб сацыялізме. Робяцца спробы захаваць старыя, націскныя метады кіраўніцтва эканомікай і іншымі сферамі жыцця.

Без пераадолення гэтых негатыўных з'яў немагчыма паспяхова рухацца наперад, вырашаць маштабныя задачы перабудовы. Перад партыяй узнікла складаная задача — вывесці краіну з застою, аздаравіць эканамічную абстаноўку, павярнуць развіццё на карысць народа, распрацаваць і ажыццявіць комплекс мер доўгачаснага характару, каб забяспечыць паскораны выхад на перадавыя рубяжы сусветнага навукова - тэхнічнага і эканамічнага прагрэсу...

Аб'ектыўны аналіз дасягнутага за тры гады ў эканоміцы, сацыяльнай сферы і культуры, асэнсаванне праблем, узнікшых у ходзе перабудовы, падвялі да вываду аб неабходнасці рэформы палітычнай сістэмы савецкага грамадства. Мэта яе — рэальна ўключыць шырокія масы працоўных у кіраванне ўсімі дзяржаўнымі і грамадскімі справамі, завяршыць фарміраванне сацыялістычнай прававой дзяржавы.

Пры гэтым размова ідзе аб умацаванні і развіцці асноватворных прынцыпаў сацыялістычнай дзяржаўнасці, народжанай Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Галоўны напрамак дэмакратызацыі нашага грамадства і дзяржавы — аднаўленне ў поўным аб'ёме ролі і паўнамоцтваў Саветаў народных дэпутатаў як паўнаўладных органаў народнага прадстаўніцтва.

Значная ўвага ў Тэзісах удзяляецца знешняй палітыцы Савецкай краіны. У дакуменце адзначана, што апошнім часам у аснову знешняй палітыкі было пакладзена новае мысленне, паслядоўна навуковае, вызваленае ад гістарычна зжыўшых сябе стэрэатыпаў. Яно адлюстравала рэаліі сучаснага свету — разнастайнага, супярэчлівага, з глабальнымі пагрозамі самому існаванню чалавечага роду і разам з тым з велізарным патэнцыялам суіснавання, супрацоўніцтва, палітычнага вырашэння вострых праблем.

БЕЛАРУСЬ У ААН

## СААЎТАР РЭЗАЛЮЦЫІ

Высокія мэты і ідэалы, закладзеныя ў Статуце ААН і Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, 40-годдзе якой адзначаецца сёлета, знаходзяць сваё адлюстраванне і развіццё ў дакументах веснавой сесіі Эканамічнага і сацыяльнага савета ААН у Нью-Йорку.

Выступаючы на сесіі, прадстаўнік Беларускай ССР Н. Бузо адзначыў, што сярод розных міжнародных дагавораў і пагадненняў асобае значэнне маюць міжнародныя пакты аб правах чалавека. Іх палажэнні прадугледжваюць, што кожная краіна-ўдзельніца будзе паслядоўна прымаць меры як індывідуальна, так і выкарыстоўваючы міжнароднае супрацоўніцтва і дапамогу з тым, каб забяспечыць максімальна магчымыя гарантыі карыстання ў роўнай ступені ўсімі яе грамадзянамі эканамічнымі, сацыяльнымі, культурнымі, грамадзянскімі і палітычнымі правамі. Беларуская ССР у сваёй пазіцыі па гэтым пытанні зыходзіць з узаемаабумоўленасці і непадзельнасці ўсіх правоў чалавека. Гэта пазіцыя падзяляецца пераважнай большасцю дзяржаў — членаў ААН.

Сёлета, працягваў прамоўца, наш народ адзначае вялікае свята — 70-годдзе ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. За гістарычна невялікі адрэзак часу, прайшоўшы праз вельмі жорсткія баі ў грамадзянскую і другую сусветную войны, беларусы ў брацкім саюзе савецкіх народаў адстаялі права на сацыялістычны лад жыцця, стварылі такую эканамічную і палітычную аснову грамадства, якія замацавалі за чалавекам працы рэальныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя правы і свабоды, усталявалі ўладу Саветаў — самім народам знойдзеную дэмакратычную форму дзяржаўнай улады.

Разам з тым мы зусім не лічым дасягнутыя поспехі ў забеспячэнні правоў чалавека мяжой. Усяму свету зразумелыя сёння без перакладу словы «демократизация» і «перестройка», якія ёміста характарызуюць працэсы, што адбываюцца ў савецкім грамадстве.

Дэлегацыя Беларускай ССР выступіла сааўтарам праекта рэзалюцыі сесіі ЭКАСАС па пытанню «Міжнародныя пакты аб правах чалавека». Гэтыя ўсеабдымныя і маючыя абавязковую сілу дакументы разам з Усеагульнай дэкларацыяй правоў чалавека складаюць аснову Міжнароднага біля аб правах чалавека. Іх захаванне і ажыццяўленне будзе садзейнічаць умацаванню мірных і дружалюбных адносін паміж дзяржавамі.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## ТРЫ МІЛЬЁНЫ ПРЫБЫТКУ

Перад летнім адпачынкам у заходнегерманскай знешнегандлёвай фірмы «Вільфрыд-пост» падскочыла цікавасць да магілёўскіх раскладных ложкаў кемпінгавага тыпу. Да заказаных на сёлетні год дваццаці тысяч фірма папрасіла Магілёўскае вытворчае аб'яднанне металавырабаў дадаць яшчэ пяцьдзесят тысяч такіх раскладушак.

Другі год прадпрыемства мясцовай прамысловасці выпускае прадукцыю на каапераваных па-тках з «Вільфрыд-пост». З ФРГ сюды паступае стка камплектуючых дэталей, а на галаўным заводзе аб'яднання вырабляюць астатнія і вядуць канчатковую зборку ложкаў. Летась іх адпраўлена партнёру трыццаць тысяч, сёлета — ужо больш дзесяці тысяч. Лёгкія, зручныя раскладушкі патрэбныя ўсюды: дома на балконе, ля мора, іх можна ўзяць з сабой у лес, для начоўкі ў кемпінгу.

А цяпер фірма перадала ўзоры сваіх камплектуючых і прапанавала магілёўчанам поўнасцю вырабляць раскладушкі. З ФРГ будзе паступаць толькі дэкаратыўная тканіна для верхняй часткі матраца (ні адно з беларускіх прадпрыемстваў не ўзялося рабіць такую тканіну). Словам, раскладушкі і металічныя ложкі, якія раней не цікавілі гандлёвыя арганізацыі нашай краіны, знайшлі пакупніка за мяжой. У мінулым годзе іх экспарт прынёс прадпрыемству тры з паловай мільёны рублёў. У гэтым мяркуецца яшчэ больш, паколькі вырабы адпраўляюцца, акрамя ФРГ, у Польшчу, ГДР, на Кубу і ў іншыя краіны.

МІЖНАРОДНЫ ФОРУМ

## У ІМЯ ЗДАРОЎЯ

«Супрацоўніцтва дзеля прагрэсу» — такі дэвіз Тыдня аховы здароўя і медыцынскай навукі Венгерскай Народнай Рэспублікі ў Савецкім Саюзе. Ён праводзіўся ў Мінску ў канцы мая.

Такіх буйных міжнародных форумаў медыкаў у нас у рэспубліцы яшчэ не было. Госці, а гэта не толькі прадстаўнічая дэлегацыя Міністэрства аховы здароўя і сацзабеспячэння ВНР, але і вялікая група прафесараў-практыкаў, знаёміліся з арганізацыяй работы і найбольш цікавымі даследаваннямі спецыялістаў Беларускага навукова-даследчага інстытута анкалогіі і медыцынскай радыялогіі, Мінскага мэдінстытута і Беларускага навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі, наведвалі некаторыя клінікі сталіцы рэспублікі.

СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ ТЭХНІКА

## І ДЛЯ САМАЛЁТАЎ, І ДЛЯ КАМБАЙНАЎ

Тэхніку, аснашчаную вузламі трэння, распрацаванымі вучонымі Днепрапятроўскага сельскагаспадарчага інстытута і Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН Беларусі, можна даверыць нават самаму нявопытнаму камбайнеру.

Справа ў тым, што падшыпнікі слізгацення, вырабленыя імі з вугалепластыкаў — матэрыялу, які прымяняецца сёння ў авіяцыйнай і касмічнай тэхніцы — зусім не патрабуюць догляду і змазкі, а служаць у некалькі разоў даўжэй за стальныя.

Пры стварэнні кампазіцыйных матэрыялаў з дапамогай розных вугляводных валокнаў і палімерных асноў вучоныя атрымалі гаму вугалепластыкаў, якія валодаюць павышанай трываласцю, зносаўстойлівасцю і да таго ж негаручых, што асабліва важна для вузлоў трэння.

Новыя падшыпнікі ўжо выпрабоўваюцца на камбайнах «Дон-1500», «Ніва», «Колас», машынах для ўборкі буракоў, кукурузы і ўсюды служаць бездакорна.

У ГАЛІНОВЫМ ЦЭНТРЫ



**Штогод больш як трыста замежных спецыялістаў асвойваюць савецкую тэхніку ў галіновым цэнтры Міністэрства сельскагаспадарчага і трактарнага машынабудавання СССР у Мінску. Сярод іх — прадстаўнікі сацыялістычных краін, Партугаліі, Швецыі, Даніі, Фінляндыі, Кіпра, Лаоса, Анголы.**
**НА ЗДЫМКУ: старшы выкладчык цэнтра Генадзь ДАНЕЙКА праводзіць заняткі з кубінскімі спецыялістамі.**

РУКАМІ МАЛАДЫХ

## МУЗЕЙ У МОРЫНЕ

Першы на Іўеўшчыне музей гісторыі Прынёманскага краю адкрыўся ў вёсцы Морына. Размясціўся ён у будынку былой царквы. Ініцыятарамі і асноўнымі яго стваральнікамі стала моладзь калгаса «Прынёманскі», навучэнцы Морынскай сярэдняй школы. Яны прымалі ўдзел у рамонце старажытнага будынка.

Дзесяцігоддзямі вёска Морына славілася майстрамі ганчарнага рамяства. Іх вырабы цаніліся ў навакольных вёсках, раскупляліся на кірмашах. Творы ўмелых рук майстроў сёння складаюць асноўную частку экспанатаў Морынскага музея. Наступны гісторыка-краязнаўчы музей раёна будзе адкрыты ў самім райцэнтры.

ФЕСТЫВАЛІ

## РАМПА ДРУЖБЫ

Насуперак усім традыцыям не вечарам, а днём успыхвалі рампы і ўздымаліся заслоны гродзенскіх тэатраў. А са сцэны гучала не толькі беларуская мова, але і мова народаў прыбалтыйскіх рэспублік, Венгрыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Ірландыі: у горадзе над Нёманам прайшоў фестываль самадзейных драматычных тэатраў «Рампа дружбы-88».

Вечарам, напярэдадні афіцыйнага адкрыцця, цэнтральныя гродзенскія вуліцы і плошчы запоўніла маляўнічае карнавальнае шэсце. А затым тут жа, на часовых падмостках прайшлі першыя спектаклі.

Такія масавыя фестывалі аматарскіх тэатраў у краіне раней не праводзіліся. Удзельнікі прадстаўлялі спектаклі толькі нацыянальных аўтараў і толькі на нацыянальнай мове, паказвалі па адной «поўнаметражнай» п'есе і па адной аднаактовай.

Што яшчэ характэрна: ад фестывалю да фестывалю ў «Рампы дружбы» становіцца ўсё больш сяброў і ўдзельнікаў. Да арганізатараў — рэспублік Прыбалтыкі і Беларусі — ужо далучыліся некаторыя сацыялістычныя краіны, а ў гэтым годзе Ірландыя. У Гродна прыехалі таксама назіральнікі з ГДР, Балгарыі і Канады, якія плануюць прыслаць свае лепшыя калектывы на наступныя агляды.

Нашу рэспубліку на «Рампе дружбы» прадстаўлялі самадзейны тэатр Краснапольскага дома культуры, адзін з самых самабытных беларускіх калектываў, ён, дарэчы, равеснік рэспублікі — сёлета адзначае сямідзесяцігоддзе, і народны тэатр з Баранавіч.

Прызы пераможцам зрабілі лепшыя ўмельцы беларускіх нацыянальных промыслаў.

ХАТНЯЯ ЭКЗОТЫКА

## ЖУРАВІНЫ ЛЯ ГАНКА

Не ў лес з кошыкам, а на ўласны агарод адправяцца хутка за журавінамі многія ўладальнікі дачных участкаў. Абзавесціся ўласнымі журавіннымі плантацыямі ім дапамаглі работнікі Батанічнага саду Акадэміі навук БССР. Сёлета яны ўпершыню рэалізавалі больш ста тысяч чаранкоў буйнаплодных журавін.

Галоўны клопат вучоных — правядзенне навуковых эксперыментаў. Але не адмаўляюць яны ў дапамозе і садаводам-аматарам. Вырошчваюць для іх саджанцы лепшых сартоў бягоніі, сальвіі, іншых папулярных кветак. Прыхільнікі экзатычных рэдкасцей прыязджаюць у Батанічны сад па кафейныя дрэвы.

*ШТО ЧАКАЕ НАВАСЕЛЬЦАЎ НА СТЫКУ СТАГОДДЗЯЎ*

# СІЛУЭТЫ НАШЫХ ГАРАДОЎ

**З кожным годам мяняецца архітэктурнае абліччa рэспублікі: у гарадах уздымаюцца гмахі вышынных дамоў з усімі зручнасцямі, а вёскі забудоўваюцца добраўпарадкаванымі катэджамі. Над чым зараз працуюць архітэктары, што новага чакае навасельцаў? Аб гэтым расказвае старшыня Саюза архітэктараў БССР Яўген КАВАЛЕЎСКІ.**



*— Яўген Міхайлавіч, як вядома, многія населеныя пункты рэспублікі былі зруйнаваны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. А цяпер яны не толькі адбудаваліся, а сталі ў рад лепшых у краіне. Як удалося дасягнуць гэтага за такі кароткі тэрмін?*

— У першую чаргу за кошт таго, што вялікая ўвага была ўдзелена развіццю будаўнічай індустрыі. Ужо ў 1962 годзе Мінскі домабудаўнічы камбінат №1 першым у краіне сярод родпасных прадпрыемстваў асвоіў праектную магутнасць па выпуску вырабаў буйнапанельнага домабудавання. Пазней на яго аснове было створана буйнейшае ў рэспубліцы аб'яднанне індустрыяльнага домабудавання. Мы, архітэктары, з самага пачатку працавалі ў цесным кантакце з будаўнікамі, імкнуліся, каб дамы вызначаліся як па знешняму выгляду, так і па канструктыўных асаблівасцях.

*— Аднак іншы раз даводзіцца чуць папрокі, што побач з арыгінальнай забудовай узнікаюць і аднастайныя, невыразныя будынкі...*

— Так, праліні, вядома, ёсць. Але трыццаць гадоў назад ставілася задача пабудаваць як мага больш танных кватэр. І мы змаглі ў сціслыя тэрміны забяспечыць людзей жыллём. Аднак сёння тыя пяціпавярхоўкі не задавальняюць гараджан, расце іх патрабавальнасць да камфорту. Людзі імкнуцца да таго, каб ім у вялікім горадзе было зручна. Таму цяпер на першы план ставім задачу комплекснай забудовы, каб чалавеку з новага мікраёна не даводзілася, напрыклад, ехаць у цэнтр за прадуктамі. Такім патрабаванням сярод іншых адпавядае брэсцкі мікраён «Усход». У ім прыменен блоксекцыйны метад будаўніцтва, улічаны рэльеф мясцовасці, дзе кампактна размясціліся пяці-, дзевяці-, чатырнаццаціпавярховыя дамы, гандлёвы цэнтр, малыя архітэктурныя формы. Плануем і надалей мацаваць сувязі з будаўнічай індустрыяй. Ле трэба рэканструяваць, развіваць новыя тэхналогіі і прынцыпы забудовы, каб на першым плане быў не «вал», а якасць, камфортнасць збудаванняў.

На жаль, сёння мы лімітаваны і коштам квадратнага метра жылля, нарматывамі на яго стварэнне, базай будіндустрыі. Перад намі стаіць задача спалучання эканамічнасці з павышаным архітэктурнапланіровачным рашэннем як усяго дома, так і асобнай кватэры. Больш прастор для ўвасаблення ў жыццё сваіх ідэй архітэктары атрымаюць з пераходам домабудаўнічай прамысловасці Мінска на выпуск да 1992 года дамоў адзінай серыі, якія будуць значна адрозніваццa ад [illegible]ючых.

*— Якой бачыцца наша кватэра на парозе XXI стагоддзя?*

— Як вядома, архітэктура ўплывае на людзей, выхоўвае ў іх пэўныя вобразы. І чалавек павінен жыць у такіх умовах, каб яны [illegible]дзейнічалі максімальнаму праяўленню яго талентаў. Пры пераходзе на новыя серыі мы будзем імкнуцца павялічваць параметры кватэр. У прыватнасці, прыменім няжорсткую сістэму планіровачных рашэнняў, што дасць магчымасць трансфарміраваць жылыя пакоі ў залежнасці ад саставу сям'і. З'явілася дзіця — і можна будзе перанесці перагародку ці ўбудаваную мэблю, стварыць новаму члену сям'і асобнае памяшканне. Пойдзе ў школу — зноў з'явіцца магчымасць правесці, так сказаць, рэканструкцыю. А пры неабходнасці — аб'яднаць кухню са сталовай. Важна і тое, што ў лоджыі гарадской кватэры з'явіцца гаспадарчая зона.

У вёсцы плануецца далейшае будаўніцтва катэджаў для сям'і па індывідуальнаму праекту. Безумоўна, спадабаюцца сяльчанам і шматлікія варыянты будынкаў з керамзітабетону. У магілёўскім варыянце, напрыклад, дамы адпавядаюць шырокім, з верандай ля ўваходу, маецца кладоўка. Брэсцкі адрозніваецца тым, што дом узводзіцца ў двух узроўнях, з мансардай, выглядае больш прывабна. Як правіла, імкнёмся разнастаіць усе пасёлкі, улічваць традыцыі і пажаданні вясковых забудоўшчыкаў. Яны маюць магчымасць выбраць дом на свой густ. У комплексе з жылымі будынкамі ўзводзяцца гаспадарчыя. Практычна любая сям'я можа пабудаваць такі дом ці заказаць яго ў падраднай арганізацыі.

*— У краіне пастаўлена задача забяспечыць кожную сям'ю да 2000 года асобнай кватэрай ці індывідуальным дамам. Якія новыя шляхі, акрамя буйнапанельнага домабудавання, намячаюцца, каб вырашыць гэту задачу?*

— Многія мінчане, напрыклад, ужо заўважылі, што ў сталіцы больш будынкаў сталі ўзводзіць з цэглы. Такі ж напрамак выбраны і ў іншых гарадах. Доўгі час на гэты матэрыял было своеасаблівае «табу». Цяпер ён дазволіць разнастаіць масавую забудову нашых гарадоў і вёсак, знайсці новыя выразныя архітэктурныя рашэнні. Добра і тое, што мы нарэшце перасталі асцярожнічаць з маналітным домабудаваннем. У рэспубліцы распрацавана спецыяльная праграма «Маналіт», якая падмацавана канкрэтнымі разлікамі. Толькі ў бягучай пяцігодцы плануецца пабудаваць каля 100 тысяч квадратных метраў жылля такім спосабам.

Шырокія магчымасці адкрываюцца перад індывідуальнымі забудоўшчыкамі. Зняты многія неабгрунтаваныя забароны, а мясцовыя ўлады, прадпрыемствы павінны аказваць усялякую дапамогу ў будаўніцтве і рэканструкцыі дамоў для іх. Прадугледжваецца стварэнне спецыялізаваных праектных і будаўнічых кааператываў.

*— У нас адбываюцца вялікія змены ў грамадскім жыцці. Як гэта ўплывае на развіццё архітэктуры?*

— Безумоўна, так званыя застойныя часы не абмінулі і архітэктуру. Усё было залішне зацэнтралізавана, а палітыка капітальнага будаўніцтва звернута на тыпавое праектаванне. Іншы раз распрацаваны ў цэнтры праект тыражаваліся па ўсёй краіне. І таленавітым архітэктарам было цяжка прабіць гэту сцяну масавай забудовы.

Але нельга не адзначыць, што беларускія архітэктары апынуліся ў лепшых умовах. На [illegible]ё-такі ўдавалася адстойваць свае погляды. І цяпер для нас стала правілам многія грамадскія будынкі ўзводзіць па індывідуальных праектах. З'явілася магчымасць для творчага росту архітэктараў, правядзення конкурсаў. У прыватнасці, у сталіцы [illegible] праведзены ўпершыню ў краіне буйны міжнародны конкурс па забудове мінскага раёна «Лебядзіны», параможцамі якога сталі дойліды з Чэхаславакіі.

Мы часцей раімся з грамадскасцю, выносім свае праекты на суд гараджан. Цяпер ідзе дыскусія аб шляхах захавання гістарычнай забудовы Верхняга горада, упарадкаванні Вайсковых могілак у Мінску. Узнікае мноства розных, часта процілеглых поглядаў. Але мы толькі вітаем такую актыўнасць грамадзян, усяляк яе падтрымліваем. Спадзяёмся, што ў хуткім часе грамадская ацэнка архітэктуры больш актыўна стане ўплываць на забудову.

**Гутарку вёў Мікалай БАЖКО.**

**НА ЗДЫМКАХ:** жылы дом у Віцебску. Архітэктары — А. ГРАЧЫШНІКАЎ і А. АСЯНЕНКА; такія дамы з маналітнага керамзітабетону будуюць у калгасе імя Леніна Слуцкага раёна; аэравакзал у Брэсце.





# ДЗЕЛАВІТАСЦЬ— ТАВАР КАШТОЎНЫ

— «Не май сто рублёў, а май сто сяброў»— гаворыць народная мудрасць. Я з гэтым поўнасцю згодны, — кажа першы сакратар Беластоцкага ваяводскага камітэта ПАРП Уладзімеж Каладзяюк. — Ужо некалькі дзесяцігоддзяў мы падтрымліваем сувязі з працоўнымі калектывамі Гродзенскай вобласці Беларусі. Скажу шчыра, гэта нам здорава дапамагае. Сёння можна было б прывесці дзесяткі і нават сотні прыкладаў нашых узаемавыгадных кантактаў, аднак я спынюся толькі на двух, якія, на мой погляд, ярка ілюструюць значэнне савецка-польскай дружбы для жыхароў нашага ваяводства.

Нам пашчасціла быць арганізатарамі зусім новай з'явы ў адносінах паміж нашымі краінамі. Мы былі гаспадарамі першага міжнароднага кірмашу прыгранічнага гандлю «Дружба». Урады СССР і ПНР 15 кастрычніка 1986 года падпісалі пагадненне аб арганізацыі прамога безвалютнага абмену таварамі паміж савецкімі і польскімі гандлёвымі арганізацыямі. Прайшоў год, і мы ўбачылі пераканаліся ў карысці новай формы супрацоўніцтва. Толькі ў другой палове мінулага года тавараабарот нашага ваяводства з Гродзенскай вобласцю склаў 325,6 мільёна злотых. Вельмі папулярны адкрыты ў нашым горадзе фірменны магазін «Нёман». Цяпер пакупнікі ўжо без асобых намаганняў могуць набыць тавары беларускіх прадпрыемстваў, якія ў нас карыстаюцца вялікім попытам — тэлевізары і халадзільнікі, пральныя машыны і вырабы са славутага гродзенскага шкла, бытавыя і гаспадарчыя тавары. Усяго і не пералічыш. У сваю чаргу, думаецца, не менш папулярная ў Гродне прадукцыя нашых прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці, касметыка, абутак, галантарэя.

Другі важны момант супрацоўніцтва — гэта прамыя вытворчыя сувязі паміж прадпрыемствамі. Прадпрыемствы і вытворчыя арганізацыі ваяводства падтрымліваюць цесныя кантакты з 39 аднатыпнымі калектывамі Гродзенскай вобласці. У сувязі з гэтым апошнім часам адбылося значнае ажыўленне. Раней сувязі насілі ў асноўным парадны характар — абмен дэлегацыямі, размовы аб дружбе, і пры гэтым — ніякіх канкрэтных крокаў, якія б прынеслі ўзаемную карысць. Цяпер жа многія аднолькавыя прадпрыемствы пайшлі па шляху кааперавання сваёй вытворчай дзейнасці. Так, наша фабрыка «Біруна» атрымае сёлета ад гродзенскага аб'яднання «Хімвалакно» сыравіны на суму 790 тысяч рублёў. З гэтым жа аб'яднаннем супрацоўнічае і фабрыка імя Сяржана.

Як дэпутат сейма ПНР нядаўна я прымаў удзел у абмеркаванні пытання жыллёвага будаўніцтва ў Польшчы. У гэтай галіне мы сутыкаемся з вялікімі праблемамі. Таму вельмі рады прапанове гродзенскіх калег расшыраць супрацоўніцтва ў гэтай справе. У красавіку шэсць нашых будаўнічых прадпрыемстваў падпісалі пагадненні з беларускімі арганізацыямі па абмену тэхналогіяй і матэрыяламі.

Наспеў час падумаць аб арганізацыі сумесных прадпрыемстваў, — падкрэсліў у завяршэнне гутаркі У. Каладзяюк.

# НЕ КАЖЫЦЕ, ШТО Я ВАС НЕ ПАПЯРЭДЖВАЎ

**(ЗАМЕСТ ФЕЛЬЕТОНА)**

З ВЯЛІКАЙ цікавасцю я сачу і чытаю аб перабудове, якая цяпер адбываецца ў Савецкім Саюзе. Аб такой раптоўнай перабудове, дэмакратызацыі і публічнасці дык мне ніколі не думалася і не снілася. Але ж гэта рэальнасць — не сон. Як жа ўсё змянілася з дзён, якія памятаю я. Цяпер заходнія журналісты маюць вольны ўезд, поўнае права апытваць людзей, якіх спатыкаюць на вуліцах, на розныя тэмы жыцця ці то сацыяльнага, ці палітычнага характару. Могуць і пішуць, што яны думаюць аб перабудове, як на гэта рэагуюць масы і якую карысць гэта ўсё дасць савецкім людзям.

Апошнім часам англійскае тэлебачанне атрымала дазвол зрабіць аб гэтай перабудове некалькі дакументальных праграм, якія тут паказваліся ў трох паўгадзінных перадачах. Перад кожнай яны рабілі прадмову, падкрэсліваючы, што ўсе гутаркі былі запісаны з поўнай згоды савецкіх улад. Не было ніякіх перашкод, не было ніякай цэнзуры. Інакш кажучы, ім сказалі: здымайце, што хочаце, гаварыце, з кім і аб чым хочаце.

Першая такая паўгадзінная праграма была прысвечана паэтам і пісьменнікам, якія да гэтага часу не мелі магчымасці не толькі што апублікаваць свае творы, але нават не маглі аб іх нікому сказаць ці пахваліцца. Слухаючы дэкламацыю аднаго паэта пра сталінскі культ, гэтаму можна было паверыць.

Другая частка паўгадзіннай праграмы была прысвечана культуры і мастацтву. І сапраўды, мы ўбачылі шмат падабенства да сягонняшняга мастацтва, якога не бракуе і тут. Адзін з мастакоў (з барадой, бо гэта ўжо так прынята) вельмі ўдала паказаў, што можа зрабіць талент, абы толькі была магчымасць. Ён артыстычным узмахам правай рукі (а левай падпёршыся ў паясніцу) памакнуў пэндзаль у вядро з разведзенай фарбай і адным, зноў артыстычным махам пляснуў на развешаны на сцяне канвес. Мы тут, а таксама англійскі журналіст з вялікай нецярплівасцю чакалі наступнага руху яго рукі. Але наступнага не было. На канвесе асталася адно чорная пляма, што ён пасля назваў «абстрактным малюнкам». Каб уявіць прыгажосць гэтага малюнка, гаварыў далей мастак, трэба мець шырокую і вольную думку. Я, не маючы божага дару ў мастацкім напрамку, як ні круціў, як ні ламаў сваю галаву, прыйшоў толькі да адной высновы, што тут калісьці на паперы пасвілася карова, а хараство ў гэтым мог бы ўбачыць толькі той, хто цэлымі днямі ходзіць па гары ды сонца не бачыць!

Трэцяя частка праграмы была прысвечана сягонняшнім мадэрным песнярам, рок-музыкантам, іх кампазітарам. Першым на сцэну выйшаў даволі яшчэ малады мужчына з абрытай, як гарбуз, галавой, у падраных джынсах і без кашулі. Ён з нейкай іранічнай усмешкай пакланіўся аўдыторыі і пачаў сваю мадэрную кампазіцыю. На сцэне на вяроўцы віселі яго інструменты — пустыя бляшаныя конаўкі, кавалкі ржавага жалеза, дроту ці бляхі, якія гадамі недзе валяліся пад парканам, а ён—музыкант, ухапіўшы ў руку нейкую біцоўку, лупіў па гэтым усім, як дурны цэпам па снапах, аж рэха калацілася. Пасля заканчэння свайго нумара, ён, задыхаўшыся, гаварыў англійскаму карэспандэнту, што аднойчы, ідучы па тратуары, ударыўся нагой аб пустую конаўку, якая пакацілася па вуліцы, робячы пэўныя гукі, і гэта дало яму натхненне на нешта новае, мадэрнае. Была адна перашкода, працягваў музыкант: да гэтага часу яму выступаць не было магчымасці, бо яго музыку называлі сабачай... Яму трэба было ісці ў падполле.

Вельмі шкада, што ён са сваёй музыкай не застаўся ў падполлі ды не забраў туды такіх самых музыкантаў, як і ён, ад нас з Англіі, бо іх тут таксама нямала.

Каб Сымон-музыка або Гусляр маглі пачуць такую музыку, я ўпэўнены, яны б у магілах перакруціліся.

Як жа да гэтых праграм адносіцца англійская прэса і крытыкі? Адабраюць як знак першага кроку да перабудовы, да дэмакратызацыі і публічнасці. І не толькі адабраюць, але стараюцца ўсімі сродкамі, каб гэта ў вас пашырыць. На першы погляд, дык здавалася б, што тут дрэннага? Але калі разгледзець справу крыху глыбей, задумацца, якую карысць яна дала на Захадзе і да чаго давяла англійскую моладзь, за сардэчным і цёплым рэагаваннем можна ўбачыць іх тактычны ход. Як кажуць, недзе ж закапаны сабака.

Перш за ўсё трэба прааналізаваць моладзь і наогул англійскі народ з таго часу, як на сцэне з'явіліся мадэрныя музыканты, мастакі да кампазітары. Мушу зазначыць, што англійская моладзь не цікавіцца ў вялікай меры ні палітыкай, ні сусветнымі падзеямі. Зрэшты, мала цікавяцца ўсе. Яны цэлымі днямі або тыднямі гавораць пра спорт, хаця вялікіх поспехаў у сусветных спаборніцтвах англічане не маюць. Калі б спытацца на вуліцы любых сто асоб сярэдняга веку, хто быў іхнім прэм'ер-міністр[illegible]кажам, дзесяць год таму назад, дык [illegible] адзін або найбольш два на гэта б адказалі. Але спытайся ж у тых самых асоб, які конь забраў першае месца ў перагонках на так званым «Гранд Найшан» дзесяць год таму назад, дык усе крыкнуць аднагалосна: «Рэд Рум»! Гэтае ж самае пытанне пастаў сённяшняй мол[illegible] дык таксама не адкажуць. Але ты[illegible]тай іх, якая рок-група была найбольш папулярнай дзесяць год таму назад, дык усе будуць ведаць!

Як я ўжо зазначыў, на сусветнай арэне англічане вялікіх поспехаў у спорце не маюць. Але каб быць абсалютна аб'ектыўным, трэба ўспомніць, што ім удалося раз, у 1966 годзе, выйграць чэмпіянат свету ў футбольным спаборніцтве, якое адбылося ў Лондане. Але з тых гадоў, як бы яны ні стараліся, заўсёды спробы канчаліся правалам. Змянялі «менеджэраў», змянялі трэнераў ды тактыку гульні. Рэзультат быў заўсёды той самы. І як яны ні ламалі свае галовы, ніяк не маглі знайсці прычыны іхняга заняпаду ў футболе. Урэшце назначылі спецыяльную камісію, якая пасля доўгіх пошукаў прычыны дайшла да высновы, што гэтаму ўсяму былі вінаватыя італьянцы. Яны, італьянцы, замест трэніроўкі сваіх футбалістаў, паспрабавалі перш за ўсё знішчыць якасць футбола ў Англіі. Гэта быў вельмі ўдалы крок. Відаць, нейкім спосабам да іх трапіла паэма Якуба Коласа «Рыбакова хата». І прачыталі яны наступныя словы:

Як пан бог справу тую выйграў
У Фараона, яго слуг.
Наслаў на іх не львоў і тыграў,
а дробных мошачак і мух.

Параіўшыся, пэўна, з рымскім папам (бо ён умее гаварыць на 52-х мовах), рашылі замест мошачак і мух заваліць англійскі рынак мадэрным абуткам, абцасы якога былі вышынёю 10—15 сантыметраў. Перш за ўсё гэты абутак трэба было разрэкламаваць. Тут вялікіх праблем не было: рок-музыканты гэта зрабілі. Моладзь, бачачы сваіх куміраў на экране, ухапілася за гэты абутак, як дурны за мыла. Праз наступных тры ці чатыры гады 12—14-гадовыя нічога і не насілі, а толькі гэты мадэрны абутак.

Вынік быў відавочны: ходзяць, як на кастылях, яны не толькі што не маглі іграць у футбол, але нават прайсці роўна.

І вось толькі цяпер стала ясна, чаму англічане ні разу не выйгралі чэмпіянат, а толькі раз ці два дайшлі да чвэрцьфіналаў.

Яшчэ раз хачу зазначыць, што англічане нічым больш не цікавяцца ў такой вялікай меры, як спортам. Ім надта колецца ў вочы, чаму на кожным сусветным спаборніцтве савецкія спартсмены выйграюць 20—30 медалёў, а англійскія — адзін-два або нічога. І так выглядае, што ўрэшце і яны захацелі зрабіць тое самае савецкім, што ім зрабілі італьянцы. Але замест заваліць рынак бацінкамі на высокім абцасе, яны, спадзеючыся, што рэзультат будзе такі самы, а мо яшчэ і лепшы, ра[illegible]лі ўкруціць савецкую моладзь у [illegible] музыку. Яны добра ведаюць: рок-му[illegible]ка чапляецца за моладзь, як кароста за рукі, і каб яе пазбыцца, трэба карчаваць з карэннямі ў самым заростку.

Аб гэтым, што савецкая моладзь укруцілася ў чужое павуцінне, сведчыць артыкул «Новыя часы для [illegible]-музыкі» («Голас Радзімы» № 51). А[illegible] артыкула Леанід Парфёнаў пытаецца. «Што на першым месцы ў савецкім року: музыка ці палітыка?» Па-мойму, ні адно і ні другое. Гэта хітры падыход заходніх дзяржаў, каб як-небудзь забаламуціць, збянтэжыць савецкую моладзь. Каб хоць крыху разгледзець гэтае пытанне, трэба вярнуцца на некалькі дзесяткаў год назад ды задумацца: якую карысць дала рок-музыка заходнім дзяржавам?

У той час, калі мы тут, у Англіі, не зналі і не чулі пра рок-музыку, жыццё было зусім іншае. Пасля працы або ў выхадны дзень ці вечар чалавек мог пайсці ў парк, падыхаць вольным свежым паветрам, палюбавацца кветкамі і прыродай. Ты мог зайсці ў кафэ, рэстаран або ў так званы тут «паб» з сябрамі — землякамі, выпіць бакал ці два піва, пагутарыць спакойна пра даўнейшае: пра дом, пра Бацькаўшчыну, пра маладыя школьныя гады. «Прайсці яшчэ раз, азірнуцца, сабраць з дарог каменні тыя»... Цяпер, дзякуючы так званай рок-музыцы, гэта немагчыма. Куды ты ні пойдзеш ці паедзеш, табе ў вушах барабаніць, як дзеравянная малатарня, гэта рок-музыка. Ад яе не ўцячэш і не схаваешся, бо кожны хлапчук ці дзяўчына школьнага веку носіць у кішэні або праз плячо радыёпрыёмнік, які гудзіць без перастанку. Хаця, каб было чаго паслухаць, дык ужо неяк бы мірыўся. Тут жа няма ні лірыкі, ні сэнсу. Кожны крычыць, як расперазаўшыся. Галасы некаторых спевакоў напамінаюць ката, другія скрыпяць, як непадмазаныя калёсы, а трэція равуць, як воўк, які ушчаміў хвост у падваротні. І не раз наляціць думка: з якой ахвотай паслухаў бы ў спакойны майскі вечар, як пад мостам спяваюць жабы.

Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца такія групы, песні якіх складаюцца з 5—6 слоў і паўтараюцца па 20—30 разоў, на што ніхто не звяртае ніякай увагі, бо слоў не разбярэш і не адрозніш ад папярэдніх песень — абы толькі ты крычаў ды падскокваў, быццам стаіш на гарачай пліце. Дабіцца гэтай папулярнасці — не трэба мець вялікага таленту ці голасу.

Па-мойму, замест таго, каб пытацца: рок — гэта музыка ці палітыка?—было б лепш спытацца, якую карысць і каму яна прынесла тут. Апроч таго, чаму заходняя прэса так гэтым задаволена і так гэта адабрае. Можа варта ўспомніць англійскую прымаўку, якая кажа: «Трэба дзяліцца ўсім і дзяліцца роўна». Вось гэтым «дабром» англічане і хочуць падзяліцца з савецкімі. А чаму ж не? Чаму ж толькі цярпець нам! Англійскіх рок-музычных груп, якія пачалі і скончылі кар'еру без кампрамітацыяў і не далі дрэннага прыкладу для сваіх маладых балельшчыкаў, можна палічыць на пальцах адной рукі. Гісторыя большасці рок-музычных груп зусім іншая, часта трагічная. Маючы добры грашовы даход, яны спачатку хапіліся за бутэльку. Нават гэта не было б так дрэнна, каб пасля бутэлькі яны не ўкруціліся ў наркотыкі. А раз ты ў гэта ўкруціўшся, выхаду лёгкага няма. Нямала іх памерла ў маладых гадах. Шмат скончыла сваё жыццё самагубствам. Не такая ўжо была б бяда ці страта, каб гэта сталася толькі з імі — гэта іх выбар і гэта іх жыццё. Але ж маладыя хлопцы і дзяўчаты, часта школьнага веку, заўсёды бралі прыклад ад сваіх куміраў і рабілі тое самае. Бяда была ў тым, што не было ў іх шмат грошай ані на бутэльку, ані на наркотыкі. Дык спачатку пачалі абкрадваць кішэні, а потым красці ўсё, што папала пад іх рукі. Урэшце дайшло да таго, што ў светлы дзень на вуліцы абдзяруць старога ці бабулю, здымуць з рукі і пярсцёнак, і гадзіннік ды ўцякуць. Пасля, каб ушанаваць сваю сілу, яны згуртаваліся ў так званыя групы балельшчыкаў, якіх можа было пазнаць па іх вопратцы і даўжыні валасоў. Яны ўцякалі з школ, уцякалі ад бацькоў і цэлымі месяцамі цягаліся за сваімі музычнымі групамі, як апосталы за Ісусам Хрыстом. Розніца была толькі тая, што, згодна біблії, апосталы навучалі людзей «не забі, не ўкрадзі». Навучалі любові чалавека да чалавека. Тут жа было наадварот: ніякай пашаны ці любові да нікога. Кралі і білі. Калі не было каго біць на вуліцы, дык біліся самі з сабой.

Але з бегам часу яны старэлі. На іх месца прыходзілі другія. Мянялася таксама і рок-музыка. Мяняліся мелодыі песень, іх рытмы. На сцэну ўваходзілі новыя песняры і музыканты, кожны раз з больш мадэрнай і замашыстай вопраткай. Мяняліся таксама і балельшчыкі, якія часта ператвараліся ў фанатыкаў. Адна з такіх груповак, якая магчыма астанецца найбольш памятнай ды не па папулярнасці, а па сваіх нялюдскіх, часта брутальных выхадках, гэта былі так званыя «Гэлс-энджэлс» — у перакладзе «чортавы анёлы». Гэта была шайка адмыслова падабраных сабой хуліганаў, якія не верылі ні ў бога ні ў чорта, а толькі прыемнасць мелі з таго, як наробяць найбольш закалоту, шуму. Яны паб'юць і аграбяць усё і ўсіх, хто б ім ні трапіўся.

Ці рок-музыка, якая цяпер пачынае апаноўваць масавую эстраду ў Савецкім Саюзе, зможа ахапіць такі ўзровень і ахаламуціць усю моладзь, як тут у Англіі, пакуль што невядома. Наступныя 10—15 гадоў гэта нам пакажуць. Але не кажыце тады, што я вас не папярэджваў.

ГІЛЯРЧЫК.

Англія.

# ПАЧАТАК БЫЎ НЯДРЭННЫ

Увесь свет з нецярпеннем чакаў новай сустрэчы ў Маскве прэзідэнта Рэйгана з Міхаілам Гарбачовым. Хочацца верыць, што яна паслужыць далейшаму ўзмацненню працэсу раззбраення. Мы ўжо бачылі добры прыклад на сустрэчы кіраўнікоў СССР і ЗША ў Вашынгтоне. Пачатак быў нядрэнным, усе парадаваліся. Хаця поспехі, дасягнутыя ў Вашынгтоне, пакуль яшчэ вельмі малыя. Тое скарачэнне, аб якім дагаварыліся, у параўнанні з усімі ядзернымі арсеналамі ўсё роўна, што кропля дажджу, якая ўпала ў акіян. Таму мы так чакалі паездкі Рэйгана ў Маскву. Гавораць жа, што пасля дажджу бывае дабрае надвор'е, дык можа і над нашай планетай заззяе яркае мірнае сонца?!

У разрадкі яшчэ шмат праціўнікаў. І шкада, што сярод іх нямала простых людзей, якія не разумеюць яе неабходнасці, а ставяць на першае месца асабістыя інтарэсы. Вось нядаўна па тэлебачанню выступаў адзін чалавек і сказаў: «Я прапрацаваў у ваеннай вытворчасці дваццаць год і хацеў бы працаваць яшчэ год пяць. А калі яе закрыюць, як мая дачка зможа паступіць ва універсітэт?»

А ўся справа ў тым, што буржуазны свет абанкруціўся. Амерыканскі долар у Еўропе страчвае каштоўнасць. Мільёны маладых людзей у ЗША і Канадзе не маюць работы, а жыць трэба. Толькі ў Таронта зарэгістравана летась 79 забойстваў. Тысячы людзей не маюць даху над галавой, у горад вечарам выходзіць небяспечна. Мы да гэтага ўжо прывыклі... На тым і спекулююць праціўнікі разрадкі.

Яшчэ не паспела прасохнуць чарніла на дакументах, падпісаных Міхаілам Гарбачовым і Рональдам Рэйганам, як па ўсёй Амерыцы пачалі лятаць «ястрабы» і крычаць: «Што будзем рабіць з беспрацоўнымі?»

Пакуль што чалавецтва жыве пад страхам знішчэння. Абяцанняў многа, але справа рухаецца марудна. Так што будзем прасіць міласці бога, калі такі існуе, каб ён абразуміў тых, хто супраць разрадкі, і навучыў людзей жыць па-брацку.

Іван ЧАБАН.

Канада.

# CAMINO A CASA

**COMENZÓ LA EVACUACIÓN DE LAS TROPAS SOVIÉTICAS DESDE AFGANISTÁN**

**Exactamente diez minutos después de que entraran en vigor los acuerdos de Ginebra sobre Afganistán, junto al hotel en Jalalabad se produjo una explosión. Los cristales de las ventanas resistieron. Los patriarcas de las tribus, que pasada la medianoche respondían a las preguntas de los periodistas, ni siquiera se inmutaron. Los periodistas nos preguntábamos si se trataba de un mortero o un proyectil reactivo. A las 6 de la madrugada del mismo día 15 de mayo tuvo lugar un mitin solemne. Jalalabad era la primera ciudad afgana en despedirse de los combatientes soviéticos que regresaban a su patria...**

LA PRIMERA columna de la guarnición de Jalalabad — en total, se retirarán de aquí más de mil hombres — cosechó en su travesía la merecida abundancia de flores, de consignas tradicionales para estos casos, de sonrisas, saludos y tarjetas de recuerdo. En algunos trechos este corredor de flores fue organizado de antemano, en otros lugares la acogida era espontánea. No noté miradas de soslayo, aunque observaba con atención los rostros de la muchedumbre. Creo que tampoco faltará cordialidad a los demás jóvenes soviéticos cuando abandonen Jalalabad. Lo han merecido. No es una misión sencilla, sino en cambio, peligrosa y a veces sangrienta, la de detectar y exterminar caravanas con armas extranjeras. De modo que, con todo derecho ostenta su orden de Estrella Roja el coronel Yuri Starov, quien fue el primero en encabezar la marcha de los soldados soviéticos desde Afganistán rumbo a la patria.

En el hospital de Kabul entendí lo que son los desastres de la guerra. Para Igor Kujarenko, oriundo de Bielorrusia, la guerra ya terminó. En compañía de otros jóvenes, a quien Afganistán les deparó el destino de inválidos, se dirigía a Tashkent para el tratamiento definitivo de su pierna. Muchachos jóvenes y simpáticos, pero la guerra los marcó hasta el final de su vida. Con el tiempo este hospital se vaciará y el avión, al que se le dio el nombre de "tulipán negro", dejará de transportar ataúdes a la patria.

Víctor Kovalenko manejó maravillosamente nuestro transporte blindado № 242. Además este muchacho de Stávropol relató cómo habían roto el bloqueo de Khost, cómo a la ciudad se dirigieron vehículos con alimentos. El joven trasladaba a las montañas los grupos que hacían la corrección del fuego contra los dushmanes.

El soldado Zaildullo Abduláev, medalla al valor y mi vecino en la coraza del carro, se mostró bien en los combates, fue herido pero no de gravedad. Finalizado su servicio militar, se matriculará en el Instituto de Educación Física y se casará. Agrada ver a muchachos tan seguros de sus fuerzas. El zapador Igor Koroliov, oriundo de la ciudad de Elektrostal (cercanías de Moscú), también pasó su servicio en Jalalabad. Pero tuvo menos suerte que nuestro conductor, porque fue herido al explotar una mina y hubo que amputarle una pierna. Ahora va a Leningrado para concluir el tratamiento médico.

A mediados de mayo hubo numerosas declaraciones de distintos estadistas sobre los acuerdos de Ginebra. ¿Y qué opinan al respecto los afganos de común, los habitantes de Kabul? No es una tarea fácil recorrer Kabul con una grabadora en mano. El 14 de mayo, a las 5.30 de la madrugada nuestro hotel se estremeció por una explosión. Había explotado un ómnibus lleno de dinamita. Lo dejaron a la orilla del río, cerca de una casa parecida a cualquier otra. La explosión mató a 10 personas e hirió a 13, entre ellas mujeres y niños. Es también una forma de manifestar una actitud hacia los acuerdos suscritos.

Entro en una pequeña tienda con el ambicioso letrero de "Gran Comercio". Abdulhusain Ghulamali, de 45 años de edad, es un profesional con un cuarto de siglo de antigüedad. ¿Cómo le va el negocio? Bastante bien. Hay clientes, entre ellos no pocos rusos. ¿Dónde consigue la mercancía? La compra recorriendo el mundo: en Berlín Occidental, Hong Kong, Taiwan, Corea del Sur. Pero le da mucho trabajo transportar las mercancías, porque no hay tranquilidad en las carreteras. Hay que pagar por el riesgo, y eso repercute en los precios. A veces sufrimos pérdidas. La guerra es mala compañera del comercio. No tengo ninguna queja contra el poder actual. Apoyo la política de reconciliación nacional. Dos veces tuve que cambiar vidrieras del comercio después de las explosiones en la calle. ¿A quién le agradará eso? Me alegro que se haya iniciado la evacuación de sus tropas. Pero si la oposición armada no cesa las acciones combativas, el asunto terminará mal para nosotros. ¿Los rusos? Nunca tuve conflictos con ellos. Los espero como turistas en mi tienda. Sabremos entendernos, porque domino un poco su idioma.

El chofer de taxi Mirago Abdullo esperaba a los clientes. Entablamos conversación al lado de su Opel, comprado hace cinco años y aún bien conservado. Nuestro interlocutor arribó a Kabul desde una provincia después de la revolución de abril. Le gusta trabajar aquí. ¿Cómo ve la retirada de las tropas soviéticas y la política de reconciliación nacional? Positivamente. Mucha gente retornará a sus hogares.

Al Opel de Mirago se acercaron pasajeros, comenzaba el trabajo. Antes de partir, dijo que temía que después de la evacuación de las tropas soviéticas podría comenzar el derramamiento de sangre, porque no a todos les cae bien un cielo de paz.

El teniente general Boris Grómov, de 44 años, Héroe de la Unión Soviética, jefe del limitado contingente soviético en Afganistán, respondía a las preguntas de los periodistas. Aseveró que serán publicadas las cifras de nuestras pérdidas. Señaló que no descartaba las acciones de la oposición armada que rechazó los acuerdos de Ginebra. Cuando le preguntaron de cómo reaccionarían las tropas soviéticas al verse atacadas las columnas, respondió que se tomarían medidas de respuesta, que de eso no les quepa la menor duda.

Borís Grómov también mencionó una cifra que los periodistas apuntamos en nuestras libretas. Casi el 25 por ciento de las tropas soviéticas se retirará de Afganistán antes de iniciarse el encuentro al más alto nivel en Moscú.

He aquí otras cifras. Se dejará para usufructo de la parte afgana más de 170 villas militares, las cuales, junto con sus respectivas instalaciones, cuestan un total de casi 600 millones de rublos.

Respondiendo a la pregunta de "NM", Borís Grómov señaló que la prensa dedicaba poca atención al problema de los prisioneros soviéticos en Afganistán porque relativamente era escaso su número. Caían prisioneros en manos de los dushmanes, siendo gravemente heridos y sin conocimiento. Continúan tomándose las medidas necesarias para conseguir su retorno a la Unión Soviética.

**Alexandr MOSTOVSCHIKOV**
**Jalalabad-Kabul**

## EN LA TIERRA NATAL







*Esta edificio en el centro de Minsk antes también estaba predestinado para los niños. Aquí se hallaban los círculos de creación técnica. Con la entrada en explotación de un nuevo edificio para la creación técnica el viejo edificio fue reequipado para un centro médico. En éste se ha instalado un dispensario especializado equipado con los aparatos más modernos.*

*En las fotos: dispensario especializado para niños; ejercicios en la sala de cultura física curativa; en la piscina del dispensario.* *Fotos: V. MIEZHÉVICH.*

# Sobre la paz, la tierra y el poder

Tal vez, luego la calificarán de "histórica", mas ya ahora vemos cuán vitales son para nosotros, para nuestros vecinos próximos y lejanos los puntos incluidos en su agenda. Ha de responder a los problemas más candentes del día, ofrecerle al partido y a toda la sociedad un programa preciso y real del trabajo ulterior, formar criterios políticos para valorar sus éxitos y fracasos. Todos estos aspectos figurarán en las tesis del CC del PCUS, que serán sometidas a discusión del partido y del pueblo entero un mes antes de inaugurarse el foro. La elaboración de las tesis fue encomendada al Secretario General del CC del PCUS.

Me pregunto: ¿qué diría personalmente desde la tribuna de la Conferencia? Diría que hace falta retornar a los veneros, a su auténtico sentido. Hay que devolver el brillo a los magnos decretos leninistas sobre la paz, la tierra y el poder. El encuentro en el CC del PCUS me ayudó a formular con más precisión estas reflexiones.

Como el fresco de un gran maestro, del cual se quitan las capas posteriores de pinceladas pomposas, renacen los contornos democráticos de los primeros decretos de la revolución socialista.

El Decreto sobre la Paz hizo una ley: la concepción militar de un Estado socialista puede ser únicamente defensiva. El magno humanitario de facto — nuestra invariable política de paz — se ha convertido en un magno humanitario de jure.

El Decreto leninista de la Tierra transformó al trabajador en dueño de la tierra. Sin embargo, el campesino concibe la vida sedentaria como la más natural, poco se iba haciendo nómada. Incluso las contratas familiares o por brigada no lo hacen auténtico dueño de la tierra: suscritos por uno o dos años, convierten la tierra arrendada en objeto de una explotación, que sabe a rapiña. Hoy, hace falta una ley sobre la tierra que convierta en su solícito y hacendoso dueño precisa y exclusivamente a quien la labra.

La espira de la historia de nuevo lanza la consigna "¡Todo el poder a los Soviets!". Los Soviets de Diputados Populares deben llegar a ser el instrumento básico, que ejerce poder en el Estado socialista. Y no de palabra, sino de hecho. Hoy, los comités ejecutivos de los Soviets en su mayoría ejercen este poder burocráticamente, desestimando a los diputados y dejándoles el único papel de intercesores, que presentan las quejas de los electores. Incluso las agendas de sesiones las confeccionan para los diputados, en lugar de los propios diputados, los funcionarios del aparato de los comités ejecutivos.

El poder pertenece al Estado Soviético, pero la práctica se ha deformado de tal manera que el poder quedó en manos del aparato administrativo. El problema consiste en redistribuir el poder a favor de los diputados, quienes de verdad han de representar al pueblo con plenos derechos. Cómo hacerlo es tema de numerosas discusiones de hoy.

También quisiera referirme brevemente a algunas de las cuestiones debatidas. Lenin subrayaba la importancia del derecho que tienen los electores para revocar a los diputados de ejercer este derecho en cualquier momento, sin ningún impedimento ni formalidades burocráticas de ninguna naturaleza.

¿Precisamos diputados profesionales?

No lo creo. Al perdor contacto con sus colectividades laborales, los diputados pueden transformarse rápidamente en oficinistas profesionales. Otro asunto es que los períodos de sesiones podrían prolongarse más, para permitir que sus participantes examinen detenidamente los puntos incluidos en la agenda y aprueben resoluciones más calificadas.

¿Debe un ministro ser diputado? No lo creo. Porque esta posición trunca el principio, según el cual ha de rendir cuentas y tener responsabilidad ante el Soviet.

El Poder Soviético debe recuperar la esencia leninista original: el Poder de los Soviets.

**Boris KOROLIOV**

**Redactor de la "Página en español": D. OKULIK.**

## *ПАМНОЖЫМ ДУХОЎНЫЯ СКАРБЫ НАШАГА НАРОДА*

# ПРАГРАМА КАМІСІІ «ВЯРТАННЕ»

Калі мы з унукам прыходзім у музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, то заўсёды спыняемся ля партрэта А. Пушкіна, зробленага невядомым, мабыць, беларускім мастаком. На палатне яго — некалькі рваных «ран», нанесеных класіку нейкім фашысцкім «культуртрэгерам». Знайшлі той партрэт у жніўні 1944 года ў падвале Дзяржаўнага гістарычнага музея БССР... А ўнізе, пад выратаваным, але свядома не адрэстаўрыраваным творам выяўленчага мастацтва, — фотакопія тэлеграмы, адрасаванай 24 сакавіка 1944 года ўпаўнаважаным рэйха па гістарычных помніках Энгелем генеральнаму камісару Беларусі. Апошняму загадвалася тэрмінова вывезці ўсе каштоўнасці таго ж Беларускага гістарычнага музея на захад — у Германію.

І загад Энгеля быў выкананы. У адной з тагачасных берлінскіх газет я неяк знайшоў інфармацыю, што найбольш каштоўныя рэчы з Беларускага гістарычнага музея апынуліся ў Баварыі — у Гехштаце каля Ульма. На гэтым іх сляды (прынамсі для мяне) губляюцца. А вывезенае з'яўляецца ўласнасцю беларускага народа! Як зрабаванае ў час вайны, яно падлягае вяртанню законнаму ўладальніку!

Такі ж лёс напаткаў каштоўнасці з іншых беларускіх музеяў. Як відаць з паведамленняў акупацыйнага друку, яшчэ ў 1942 годзе ў Баранавічах захоўваліся карціны Рубенса і Роза, творы беларускага мастакоў, заходнееўрапейскі і кітайскі фарфор, беларуская драўляная скульптура XIV стагоддзя. Потым усё гэта было вывезена ў рэйх. Як і зборы Дзяржаўнай бібліятэкі БССР, бібліятэкі АН БССР, мінскіх архіваў, толькі часткова вернутыя пасля Перамогі.

Або возьмем Магілёўскі музей. Да вайны ў ім зберагалася такая бясцэнная нацыянальная рэліквія, як шасцікантовы крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены для яе полацкім ювелірам Лазарам Богшам у 1161 годзе і тады ж падараваны ўладальніцай царкве святога Спаса. На драўляную аснову крыжа былі набіты 21 залатая пласціна з адтулінамі для каштоўных каменняў і мошчаў і 20 сярэбраных пласцін. Па адваротнаму баку ішлі надпісы. Мастацкая, духоўная каштоўнасць гэтай рэліквіі сёння не паддаецца ніякаму грашоваму вызначэнню... Там жа, у Магілёве, знаходзіліся (мяркую па словах былых музейных работнікаў) больш за 20 рукапісных і старадрукаваных евангелляў і псалтыраў у багатых акладах, залаты і сярэбраны ключы ад горада, дзве сярэбраныя гарадскія пячаткі, булава караля Жыгімонта, мітра Георгія Каніскага, кубкі з партрэтамі рускіх цароў і нават каралі, пярсцёнкі і пласціны, знойдзеныя ў час раскопак у Пампеі. На пачатку вайны магілёўскія каштоўнасці бясследна зніклі.

Вялікія страты былі нанесены матэрыяльнай і духоўнай культуры Беларусі не толькі ў час другой сусветнай вайны. Наша зямля знаходзілася на шляху самых розных заваёўнікаў. Скарбы, захопленыя ў баявых паходах, вывозіліся на захад і ўсход, поўнач і поўдзень. Згадаем хаця б шведскія [illegible]шэсці або адступленне фр[illegible]зскай арміі ў 1812 годзе. Нямала каштоўных рукапісаў і кніг трапіла ў Германію ў гады першай сусветнай вайны. Так, у 1916 годзе віленская газета «Гоман» паведамляла, што Нямецкі каланіяльны (!) інстытут у Гамбургу прыдбаў для с[illegible] Славістычнага семінара «[illegible]екцыю беларускіх дакументаў з XVI, XVII і XVIII стагоддзяў». Падобная калекцыя была адпраўлена ў Франкфурцкі універсітэт. Практычна для беларускай культуры гэтыя дакументы аказаліся страчанымі (як і шматлікія матэрыялы, вывезеныя ў Польшчу пры адступленні войскаў Пілсудскага ў 1920 годзе).

А колькі карцін, скульптур, кніг, рукапісаў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, што знаходзіліся ў нашых дзяржаўных і прыватных зборах, было прададзена або падаравана іншаземным калекцыянерам. Сёння гэтыя каштоўнасці ўпрыгожваюць самыя розныя музеі, бібліятэкі і архівы свету, і, на жаль, часта недаступныя беларускім даследчыкам. У выніку мы не можам узнавіць мінулае свайго народа з дастатковай паўнатой і ўсебаковасцю. Ствараецца ўражанне, нібы гэта мінулае было нейкім непаўнацэнным, бедным на матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці. Такое ўражанне ўзмацняецца пры параўнанні са спадчынай суседніх народаў, якія панеслі меншыя страты ў войнах і захавалі свае скарбы амаль у цэласці.

І, што ўтойваць грэх, ёсць тут віна і нас саміх. У застойныя часы, вузка дбаючы толькі пра дзень сённяшні, мы не вельмі клапаціліся пра нашу гістарычную памяць, пра зберажэнне нашай спадчыны — з тым, каб, памножыўшы яе, годна перадаць нашчадкам. Становішча змянілася толькі ў апошнія гады — на хвалі абнаўлення і перабудовы. Адна з вызначальных рысаў сённяшняга перыяду нашага развіцця — павышаная, абвостраная цікавасць да нацыянальнай гісторыі. Веданне яе нам патрэбна не для задавальнення марнай цікаўнасці, а каб зразумець сваё месца ў гістарычным працэсе, каб, робячы вывады з урокаў мінулага, вызначыць шляхі ў будучыню. Вось чаму пытанні спадчыны не сходзяць сёння са старонак друку, жыва дыскутуюцца на сходах розных «фармальных» і «нефармальных» арганізацый. Вось чаму сёння многае робіцца для стварэння новых музеяў, выдання літаратурных помнікаў, выкрасленых з нашай памяці ў гады культу асобы і застою.

Захаванне і памнажэнне спадчыны сталі галоўным клопатам і Беларускага фонду культуры — грамадскай арганізацыі, якую вобразна сёння называюць дзіцём перабудовы і публічнасці. У межах гэтага фонду створаны розныя камісіі, куды ўвайшлі беларускія вучоныя, пісьменнікі, мастакі, работнікі музеяў, бібліятэк і архіваў, рэлігійныя дзеячы. Імі завяршаецца распрацоўка шматгадовай праграмы, якая так і называецца — «Спадчына». У фонд пачалі паступаць першыя грашовыя ахвяраванні (у тым ліку і ад суайчыннікаў з-за рубяжа), якія пойдуць на аднаўленне гістарычных цэнтраў (напрыклад, Верхняга горада ў Мінску), узвядзенне помнікаў (напрыклад, Кастусю Каліноўскаму ў Гродне), развіццё народных традыцый, выхаванне моладзі.

Адна з камісій Беларускага фонду культуры атрымала сімвалічную назву «Вяртанне». Мэта яе — садзейнічаць вяртанню на радзіму скарбаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія па розных прычынах аказаліся сёння за межамі рэспублікі. Камісіяй прыняты канкрэтны план работы. Найперш мы мяркуем стварыць [illegible]абязную картатэку, з [illegible]ой было б відаць, дзе, калі і што знікла з беларускіх музеяў, бібліятэк, архіваў і прыватных калекцый, куды яно трапіла ці магло трапіць. Хочам зрабіць такую інфармацыю даступнай шырокім колам [illegible]педчыкаў. Скажам, ужо сё[illegible] будзе падрыхтаваны даведнік «Беларускія матэрыялы ў архівах СССР». Прыняты захады, каб дапамагчы нашым новым музеям. Так, для Музея гісторыі беларускага кнігадрукавання, які акрыецца ў Полацку да 500-годдзя нараджэння Францыска Скарыны, Дзяржаўная бібліятэка СССР імя Леніна ў Маскве згадзілася перадаць звыш ста рэдкіх кніг, у тым ліку пяць прыжыццёвых выданняў Сімяона Полацкага. Паспяхова вядуцца перагаворы пра тое, каб з фондаў Дзяржаўнага гістарычнага музея (Масква) перадаць у Беларусь некалькі экземпляраў скарынінскіх выданняў. Вывучаецца пытанне аб перадачы ў Мінск матэрыялаў Віленскага беларускага музея (частка іх была перавезена яшчэ ў пяцідзесятыя гады). Наладжваюцца плённыя кантакты з установамі Польшчы і ГДР.

На апошнім пасяджэнні камісіі «Вяртанне» зайшла гаворка пра тое, што выканаць нашу праграму будзе цяжка без актыўнай дапамогі суайчыннікаў за рубяжом — усіх тых, каму блізкая і дарагая родная беларуская зямля, хто хоча памножыць яе культурны патэнцыял. Добрым прыкладам тут могуць служыць плённыя (для абодвух бакоў) узаемаадносіны з рускай, армянскай, літоўскай эміграцыяй. Праўда, пра патрыятычныя ўчынкі беларускай пакуль што чуваць малавата. Мусіць, тут адбілася і інерцыя застойнага перыяду. Інерцыя, якая, верыцца, будзе пераадолена.

А цяпер ад агульных слоў хацелася б перайсці да канкрэтных прапаноў. Супрацоўніцтва Беларускага фонду культуры з зарубежнымі суайчыннікамі (не толькі з беларусамі, але і з рускімі, палякамі, што нарадзіліся на нашай зямлі) магло б, як мне здаецца, развівацца ў некалькіх напрамках. Найперш з іх — гэта высвятленне далейшага лёсу каштоўнасцей, якія былі ў вайну вывезены з Беларусі і да гэтага часу не вернуты. Я далёкі ад думкі, што вярнуць іх (ска-

---

## ПАЭТЭСА Р. БАРАВІКОВА — ЛАЎРЭАТ ЛІТАРАТУРНАЙ ПРЭМІІ ІМЯ АРКАДЗЯ КУЛЯШОВА

# КАХАННЕ І ПРЫНІЗІЦЬ, І ЎЗНІМЕ

Сёлета паэтэса Раіса Баравікова стала лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова. Для яе гэта ганаровая адзнака. «Па-першае, таму, гаворыць яна, што прэмія носіць імя паэта, які сваім жыццём і ўсёй сваёй творчасцю паказваў прыклад высокага і сумленнага служэння народу і літаратуры; па-другое, прэмія літаратурная. І гэта як давер, як прызнанне тваіх творчых магчымасцей, што радуе і разам з тым яшчэ больш павышае адказнасць перад словам, перад часам, перад усёй нашай літаратурай. І яшчэ трэцяе. Зборнік «Каханне», за які прысуджана прэмія, — кніга лірыкі. А лірыка яшчэ зусім нядаўна не тое, каб не прызнавалася, але лічылася нечым малаважкім, панавала думка, што ёсць тэмы больш гучныя і маштабныя, чым радасці і засмучэнні чалавечай душы. Але ж усе справы нашы, усе адносіны пачынаюцца з душы: што выспее ў ёй, тое і абернецца плодам горкім ці салодкім. Мяне радуе паварот нашай свядомасці да чалавека, да ягонага жыцця».

У сучаснай беларускай літаратуры паэтэсы-жанчыны займаюць значнае месца. Творчасць кожнай з іх індывідуальная. Адных вабіць гісторыя, імкненне асэнсаваць мінулае народа, яго карані. Ёсць паэтэсы - філосафы, ёсць лірыкі. Раіса Баравікова — лірык. Яе паэзія прасякнута святлом кахання, у ёй горыч няспраўджаных спадзяванняў, роздум аб лёсе і месцы жанчыны ў сучасным грамадстве.

Паэтэса Барвікова пачыналася з лірыкі.

— І ніколі не здраджу абранаму кірунку. І ў 70 гадоў буду пісаць пра каханне, — усміхаецца мая субяседніца. — Упэўнена, што няма такой справы, якую можна рабіць без любві да людзей, да жыцця! У кожнай пары чалавечага існавання ёсць свая асалода. З часам становішся мудрэйшай, хочацца пісаць не проста пра жыццё, а спасцігнуць, хоць трошачкі, яго таямніцы. Паступова становіцца цеснай і звыклая форма. Яна абмяжоўвае, а хочацца сябе выпрабаваць не толькі ў вершах. Мару, што ўдасца выйсці на драму ў вершах. Мяне хвалююць постаці выдатных людзей з мінулага і сучаснікі, паспрабую ўзнавіць некаторыя старонкі нашай гісторыі, як я іх сабе ўяўляю.

Мне здаецца, што спробы такой работы ў Раісы Баравіковай ужо ёсць. У зборніку «Каханне» змешчаны лірычны цыкл «Саламея», прысвечаны нашай зямлячцы, вядомай асветніцы XVIII стагоддзя Саламеі Пільштыновай. Яна пакінула нам мемуары, у якіх вельмі каларытна паказаны розныя бакі жыцця тагачаснай Беларусі, Турцыі, дзе яна неаднойчы бывала, пецярбургскі двор.

У апошнія гады Раіса Баравікова пачала пісаць для дзяцей. І гэта таксама сведчыць аб яе чалавечай і творчай сталасці, таму што дзеці — самыя патрабавальныя, самыя цікаўныя і ўдзячныя чытачы. Яшчэ ў пачатку мінулага года ў «Голасе Радзімы» друкавалася «Казка пра цуд-мастака і блакітную вежу», якая ўвайшла ў новую кніжку паэтэсы «Галенчына» я», або Планета цікаўных хлопчыкаў». Галенка, дачка Раісы Андрэеўны, бясспрэчна, першая чытачка, і калі казкі і апавяданні ёй падабаюцца, для маці і пісьменніцы Раісы Баравіковай няма больш высокай узнагароды. Падабаюцца яны і іншым хлопчыкам і дзяўчынкам, таму што ў кніжках займальны сюжэт, цікавыя героі, добрыя і справядлівыя. Аўтар выказвае ў іх шчырае жаданне захаваць для ўсіх дзяцей планеты мір і цёплае сонейка, каб не дзьмулі на малышамі халодныя вятры, а з неба падалі толькі рамонкі.

Ужо чатыры гады Раіса Баравікова працуе літаратурным кансультантам пры маладзёжнай газеце «Чырвоная змена». Падказвае, раіць, кіруе. Найбольш таленавітыя з тых, хто наведваў аб'яднанне, — Аколава, Глобус, Сіўчыкаў... Ядро аб'яднання, можна сказаць, у свой час склала нефармальнае аб'яднанне «Тутэйшыя», якое зараз існуе пры Саюзе пісьменнікаў. Многае з таго, чым даводзіцца сёння займацца Р. Баравіковай, яна вынесла з уласнага вопыту.

— Дапамога маладым, апека іх, ці як некалі гаварылі, мецэнацтва (мая работа носіць, канешне, іншы характар), ва ўсе часы лічылася справай неабходнай і высакароднай. Часам з зайздрасцю слухаеш расказы старэйшых пісьменнікаў, як любілі маладых, беражліва да іх ставіўся Янка Купала. Калі я вучылася ў Літаратурным інстытуце ў Маскве, нам, 18-гадовым, наладзілі сустрэчу з вядомым паэтам Сельвінскім у Перадзелкіне. Як свята ўспамінаецца тая сустрэча. Нам было вельмі важна пачуць слова старэйшага сябра. Думаю, што не адну нам ён дапамог тады здабыць упэўненасць, не разгубіцца.

Як чалавек, які і сам яшчэ зусім недалёка адышоў ад тых, каго называюць маладымі пісьменнікамі, і па роду сваёй дзейнасці ў «Чырвонай змене» Раіса Баравікова ведае і часам з трывогай адзначае праблемы пачаткоўцаў. Прыток маладых сіл у літаратуру, па яе словах, адбываецца марудна. Яна бачыць таму некалькі прычын. Ёсць сур'ёзныя прэтэнзіі да крытыкаў, якія часцей за ўсё звяртаюць увагу на масітых пісьменнікаў, аўтарытэт якіх сталы, бясспрэчны. А ўвага крытыкаў, іх слова можа яшчэ ў большай ступені неабходныя тым, хто ў самым пачатку свайго творчага шляху.

Перашкаджаюць увазе да маладых у літаратуру і адносіны да беларускай мовы, якой доўгі час не надавалася ў нас належнай увагі.

— Ну а цяпер, як вы мяркуеце, Раіса Андрэеўна, ёсць у нас зрухі ў вырашэнні моўнага пытання?

— Я думаю, што ёсць зрухі. Нават у чыста бытавым плане. Прыемна, напрыклад, што прыпынкі ў метро аб'яўляюцца на беларускай мове. Больш (хаця, лічу, недастаткова) адкрываецца беларускіх школ. У дзіцячых садах пачынаюць размаўляць з дзецьмі па-беларуску. Калі сёння мы будзем гаварыць з дзецьмі на роднай мове ў дзіцячым садзе, то наступныя пакаленні пачуюць яе ўпершыню ўжо ад сваіх маці.

Раіса Баравікова нарадзілася ў вёсцы Пешкі на Брэстчыне. Сярэднюю школу заканчвала ў Бярозе. На ўсё жыццё захавала ўдзячнае пачуццё да настаўніцы беларускай мовы, якая раскрыла перад ёй хараство і багацце роднага слова, навучыла любіць яго і шанаваць.

Ад вёскі, гаворыць паэтэса, назаўсёды засталося адчуванне прыгажосці і надзейнасці, чысціні і вернасці. Вернасці традыцыям, народнай культуры, зямлі, на якой нарадзілася.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

жам, той жа крыж Ефрасінні Полацкай)— лёгкая і простая справа. У розных краінах дзейнічаюць розныя законы, існуюць фармальныя перашкоды. Але калі ўдасца ўстанавіць, дзе і што сёння знаходзіцца, то гэта і будзе першы крок да мажлівага вяртання... На пасяджэнні камісіі прыводзіўся такі факт. У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР ёсць выдадзены ў Бельгіі вялікі каталог твораў мастацтва, вывезеных з розных краін Еўропы ў другую сусветную вайну і дагэтуль не «апазнаных». Напэўна ж, сярод іх ёсць і экспанаты з беларускіх музеяў. Але «апазнаць» іх па каталогу вельмі цяжка, паколькі там не пазначаны ні памеры, ні ранейшыя інвентарныя нумары. Хто ж можа дапамагчы тут, правесці карпатлівае супастаўленне розных звестак? Кароткачасовымі камандзіроўкамі, зразумела, не абыдзешся. Патрэбна садзейнічанне тых, хто стала жыве за рубяжом.

Другі аспект супрацоўніцтва — выяўленне беларускіх матэрыялаў (рэдкіх кніг, рукапісаў, архіўных дакументаў) у сховішчах зарубежных краін— ад Грэцыі і Італіі да Швецыі і ЗША. Правёўшы два месяцы ў такіх пошуках у Англіі, я пераканаўся, якая гэта цяжкая, але і патрэбная праца. Яна падобна, вобразна кажучы, на лоўлю мечанай рыбкі ў моры. І ўлоў яе тым больш верагодны, чым больш людзей далучыцца да пошукаў. Мікрафільмы або ксеракопіі такіх матэрыялаў былі б добрым падарункам айчыннай культуры, садзейнічалі б паглыбленаму вывучэнню мінулага.

На пасяджэннях камісіі называліся і канкрэтныя адрасы архіваў, музеяў і бібліятэк, у якіх ёсць такія матэрыялы. Гэта нацыянальны архіў у Вашынгтоне, куды, мяркуючы па апублікаваных каталогах, пасля вайны трапілі дакументы з Беларусі. Гэта музей і бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане, дзе захоўваецца альбом са здымкамі, зробленымі ў час этнаграфічнай экспедыцыі на Случчыну ў 20-я гады (нашым даследчыкам дужа прydаліся б копіі тых здымкаў). Гэта бібліятэка Упсальскага універсітэта ў Швецыі. Як піша ў камісію этнограф С. Цярохін, якраз там знаходзіцца адзіны вядомы нам сёння дадатак да карты Вялікага княства Літоўскага Т. Макоўскага, выдадзенай у 1613 годзе ў Амстэрдаме. А ў дадатку тым ёсць многа каштоўных звестак, сабраных на тэрыторыі Беларусі славутым нясвіжскім картографам. Заказаць копіі кніг і рукапісаў афіцыйным шляхам часам перашкаджаюць розныя фармальнасці, недахоп валюты. І таму дапамога нашых суайчыннікаў тут магла б даць асабліва добры плён. Я перакананы, што і Беларускі фонд культуры, і таварыства «Радзіма» знойдуць спосабы і сродкі, каб аддзячыць за такую самаахвярнасць, узнагародзіць яе.

Яшчэ адзін аспект — пасрэдніцтва ў абмене каштоўнасцямі. Вяртанне можа быць не аднабаковым, а двухбаковым. Да прыкладу, у адной з беларускіх бібліятэк знаходзяцца рукапісныя матэрыялы па гісторыі Луўра, у другой — прыжыццёвыя выданні класікаў англійскай, французскай, нямецкай літаратур. Для нас яны не ўяўляюць асаблівай цікавасці. А дзесьці за рубяжом іх, напэўна ж, шукаюць, як мы шукаем свае рэліквіі... Дык давайце выяўляць такія сустрэчныя інтарэсы і задавальняць іх!

Урэшце, настаў час гаварыць і пра вяртанне на радзіму каштоўнасцей, створаных самой эміграцыяй. Мне яна ўяўляецца вельмі разнароднай па сваёй палітычнай і культурнай арыентацыі. Побач з творамі, якія не знойдуць водгуку на радзіме, эмігрантамі пісаліся кнігі, маляваліся палотны, стваралася музыка, якія маюць мастацкую каштоўнасць.

Двухбаковы абмен мастацкімі каштоўнасцямі, вяртанне іх дзеля памнажэння н[illegible]нальнай і агульначалавеч[illegible] спадчыны несумненна будзе садзейнічаць культурнаму ўзаемаўзбагачэнню і, галоўнае, лепшаму разуменню людзей у сённяшнім трывожным свеце. Будзе служыць разрадцы міжнароднай напружана[illegible] якая, на шчасце, сёння с[illegible]віцца явай.

**Адам МАЛЬДЗІС,**
**старшыня камісіі «Вяртанне» Беларускага фоду культуры.**

## ВЫХАВАННЕ ГІСТАРЫЧНАЙ ПРАЎДАЙ

Зацікаўленая ўвага народа да свайго мінулага, характэрная для пераломных этапаў грамадскага развіцця, у поўнай меры праяўляецца і ў нашы дні. Шматграннай тэме «Гісторыя народа і літаратура. Да 70-годдзя Беларускай ССР і КПБ» быў прысвечаны пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, што адбыўся ў мінскім Доме літаратара.

Уступным словам пленум адкрыў старшыня праўлення, народны паэт Беларусі Максім Танк.

Нялёгкі працэс выхавання гістарычнай праўдай, вяртанне памяці, паўната і асэнсаванасць ведаў аб мінулых стагоддзях і нядаўнім мінулым — усё гэта важнейшы клопат літаратараў, падкрэслівалася ў дакладах А. Мальдзіса і М. Мушынскага, выступленнях удзельнікаў пленума. Быў дадзены крытычны аналіз стану сучаснай прозы, паэзіі, драматургіі, літаратуразнаўства, якія раскрываюць гістарычную тэму, узаемаадносіны гістарычнай навукі, адукацыі і літаратуры. Пісьменнікі намецілі асноўныя напрамкі распрацоўкі гістарычнай тэматыкі ў сучасным літаратурным працэсе.

На парадку дня таксама—шляхі перабудовы арганізацыйна-творчай дзейнасці Саюза пісьменнікаў БССР.

## ПЕСНІ РОДНАЙ ХАРАСТВО

Актавая зала філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна, бадай, ніколі яшчэ не выбухала такім громам апладысментаў. Хлебам-соллю на вышываным ручніку сустракалі будучыя настаўнікі-славеснікі заслужаную артыстку БССР Валянціну Пархоменку разам з яе верным спадарожнікам Аляксандрам Казаком. Ініцыятарам сустрэчы стала кафедра беларускай мовы.

Духмяным водарам палескіх лугоў і ніў, вірлівымі ручаямі Гродзеншчыны і Полаччыны, жыццёвай мудрасцю часу і дасціпным перазовам маладосці патыхала ад добра знаёмых і зусім невядомых песень.

Алег Лойка заўважыў пасля канцэрта, што такая сустрэча дае для студэнта ў дзесяць разоў больш, чым любая лекцыя. Не пагадзіцца з гэтым цяжка. Беззапаветная любоў да роднай песні, мілагучная беларуская мова, якой свабодна і натуральна валодаюць артысты, шчырасць і сардэчнасць думак і разваг на працягу амаль дзвюх гадзін сустрэчы-канцэрта—усё гэта знайшло самы гарачы водгук.

Зацікавіліся спявачкай і супрацоўнікі навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору і дыялекталогіі, якія прапанавалі для яе рэпертуару некалькі невядомых мелодый народных песень, запісаных у розных кутках Беларусі.

**М. ПРЫГОДЗІЧ.**





## НІХТО НЕ ЎСЕДЗЕЎ У ХАЦЕ

**Бадай, у гэтую майскую нядзелю ў Пакалюбічах ніхто — ні стары, ні малы — не ўсед[illegible] у хаце. З самай раніцы да мясцовага Д[illegible] культуры пачалі пад'язджаць аўтобусы. А ў іх госці і ўдзельнікі маючага адбыцца свята са Старых Цярэшкавічаў, з калгаса імя Урыцкага, з Гомеля і з Мінска. Неўзабаве вёска напоўнілася гаманлівай дзятвой — удзельнікамі самадзейных мастацкіх калектываў.**

**Вялікую і разнастайную праграму фальклорна-літаратурнага свята «Цудоўная краіна Несцераўка» адкрыў герой беларускіх народных казак Несцерка. Яго ролю выконваў рабочы Гомельскай мэблевай фабрыкі В. Окунь. Потым — сустрэча з пісьменнікамі і паэтамі. У госці да сваіх юных сяброў прыехалі В. Габееў, Н. Шклярава, В. Ткачоў, Э. Усціновіч, Т. Мельчанка.**

**З традыцыйнымі народнымі песнямі і паказам абрадаў Гомельшчыны выступілі ўдзельнікі народнага хору Пакалюбічаў і дзіцячы фальклорны тэатр «Сонечныя зярняты» вёскі Краснае.**

**Спадабаліся вяскоўцам і танцы, прыпеўкі, гульні ў выкананні гурткоўцаў Гомельскага раённага Дома піянераў і школьнікаў.**

**Аматары тэатра маглі ўбачыць тут выступленне лялечнага тэатра са Старых Цярэшкавічаў, прыняць удзел у літаратурным балі. У завулку Мастакоў можна было атрымаць у падарунак малюнак, а на вуліцы Майстроў — паназіраць, як дзеці працуюць з дрэвам, саломкай, глінай.**

**Увесь дзень над вёскай гучала музыка, а гаспадар свята Несцерка пацяшаў народ сваімі байкамі. І малыя, і дарослыя весяліліся ад душы: гушкаліся на арэлях, прымалі ўдзел у гульнях і конкурсах.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час свята; удзельнікі гуртка тэхнічнай творчасці Пакалюбіцкай сярэдняй школы А. ПАРХОМЕНКА І В. АЛЕЙНІКАЎ; удзельнкіі драмгуртка з вёскі Яроміна; выстаўка на вуліцы Майстроў.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**





# крынічка

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

## ЖАБКІ І ЧАРАПАХА

На беразе маленькага лясного возера-балотца разгарлаліся, разышліся і наладзілі канцэрт жабы. Церушыў на іхнія галоўкі цёплы дожджык, свяціла праз яго сонца. Весела было жабкам — вось яны і спявалі.

І тут прыплыла пратокай з такога самага суседняга балотца-возера вялікая балотная Чарапаха. Жыла яна адна, вынырнула, напалову вылезла на бераг і ўся аж зморшчылася ад асалоды. Надта добра спявалі жабкі.

— Жабкі-жабкі, дзень добры.

— А ты што за цуда-юда? — спыталі жабкі.

— Я Чарапаха.

— Бачыць такое не бачылі, чуць гэткае не чулі. Значыць, не можа цябе быць.

— Ды ёсць жа я, — сумна сказала Чарапаха. — І як жа вы добра спяваеце! Паўтарыце, калі ласка. Проста салаўі.

— Можам, — сказалі ўлешчаныя жабкі.

**— Ку-ма, кума**
**Бор-ршчык в-вар-рыла.**

— Выдатна, — сказала Чарапаха. — Выключна.

**— Бур-ракі, бур-рак-кі,**
**Бур-ракі-кі-кі-кі-кі.**

У Чарапахі — аж слёзы з вачэй, так хораша спявалі жабы.

— Жабкі-жабкі, прыміце мяне ў свой хор.

— А ты спяваць умееш?

— Не. Я слухаць люблю.

— Дык слухай. Здалёк. Ці прывядзі сястру, якая ўмее.

— І яна не ўмее, — сумна сказала Чарапаха. — Мы, чарапахі, не ўмеем спяваць. Голасу нам не дадзена.

— Дык нашто ты нам тады? — спыталі жабкі.

— А слухаць вас хто будзе? Хваліць?

— Нас і так усе чуюць. І ўсе хваляць.

— Ну і я ціхенька сядзела б ды хваліла, — сказала добрая і разумная Чарапаха.

— Дык ты, можа, яшчэ нешта ўмееш? — спытала Галоўная Жаба ў хоры, якая аж дзьмулася ад важнасці.

— Плаваць умею. Ныраць.

— Гэта і мы ўмеем. А скакаць умееш?

— Не, — уздыхнула Чарапаха.

— Нічога ты не ўмееш... А мы яшчэ нясём ікру. Жабурынне.

— Я замест яе яйкі нясу, — сказала Чарапаха. — Вялікія.

— Ф-фу, — сказала Галоўная, — яйкі... Ну, паспрабуй усё ж заспяваць.

І Чарапаха зарыпела.

**— Свяціць месячык**
**з гары**
**На глыбокія віры.**
**На шчытах у чарапах**
**Сіняе святло гарыць.**

— Словы нішто сабе, — сказалі жабы, — але ж голас? Бр-р-р!

— Дык я вам — словы, а вы б — спявалі.

— Словы ў нас не горшыя. Самі прыдумалі:

**Што вар-рыла, кум-ма,**
**кум-ма?**
**Боршч, бор-шч,**
**бур-ракі.**

— Добрыя словы, — сказала Чарапаха, — але галасы ў вас лепшыя.

— І што гэта за «шчыты ў чарапах»? — спытала Галоўная Жаба.

— А вось тое, што на мне.

— Гэта карычневае? — усхваляваліся жабы. — Гэта брыдкае? Ну не. Мы вось такія прыгожыя. Зялёныя. Бліскучыя Як лакіраваныя.

— Жывыя, — сказала Чарапаха, — усе прыгожыя.

— А чаму гэта брыда завецца шчытом? — спытала Маладзенькая Жабка.

— Яна цвёрдая.

— Няўжо-о? Во-ой! Быць не можа.

Самая смелая з жабак падплыла асцярожна і дакранулася да панцыра лапкай.

— Вой! Яна ж жалезная!

— Ну і што? — сказала Чарапаха.

— Цвёрдая!.. Голасу не мае!..

— Усё роўна вы мне падабаецеся. Спяваеце прыгожа. Мне ад сумна.

Але жабы ўжо разышліся:

— Жалезная жаба, — загаратала самая насмешлівая.

— А мы мяккія жабкі. Зялёныя.

— Жалезная! Гы-гы-гы!

Чарапаха пачала крыўдаваць:

— Кожная жывёла — розная. А я — карысная.

— І мы кар-рысныя... А ў цябе голасу няма... Кар-рычневая...

— Жаба ў танку, — пажартавала насмешніца.

Пакрыўдзілася бедная Чарапаха, нырнула і паплыла ў пратоку, а пасля ў сваю азярынку. А жабы, гледзячы на яе бурбалкі, зноў завялі сваю валынку з катрынкай:

**— Бур-ракоў не было —**
**Бр-ручкі навар-рыла...**

...Ну і што? І ці добра гэта атрымалася? Тут сабе жабкі весела спяваюць дурныя словы добрымі галасамі. А там Чарапаха, што не мае голасу, але ведае добрыя словы, ляжыць сабе пад вадой, пад святлом месяца, пакрыўджаная і адна-адзінюсенькая.

І нашто, калі ты зялёны і мяккі, лаяць таго, хто карычневы і цвёрды? Ты вось ходзіш на двух нагах, а кот — на чатырох. І няхай сабе.

Дрэнна вы зрабілі, жабы. Ану, марш адразу к у Чарапахі прабачэння прасіць, перапрашаць яе.

А ты зараз кладзіся спаць, бо жабы будуць перапрашаць Чарапаху аж да раніцы. А пасля прыйдуць да нашых дзвярэй. І раніцай, калі прачнешся, тата або мама, бабуля або дзед раскажуць табе, даравала жабам Чарапаха ці не.



Вось і празвінеў для школьнікаў апошні званок. Скончаны яшчэ адзін клас. Наперадзе лета і доўгія — аж тры месяцы — канікулы.
Фота У. БАСЬКО.

Адам РУСАК

### ВЯСНОЙ

**У птушыным зводным хоры —**
**Пераліві,**
**Пераборы!**
**ДО — адна з тых першых нот,**
**Што выводзіць сам удод.**
**Ноту РЭ — снягір бярэ.**
**Ноту МІ — бярэ чыранка.**
**Ноту ФА — бярэ аўсянка.**
**Ноту СОЛЬ — бярэ шчыгол.**
**Нота ЛЯ — у салаўя.**
**Нота СІ — у жаўрука,**
**Самародка-спевака.**

**Так пяе птушыны хор.**
**Аж звініць зарэчны бор!**

Пятро СУШКО

### ЧМЯЛЁВА ГУШКАЛКА

**Над палянкаю лятаючы,**
**Верасовы мёд збіраючы,**
**Прытаміўся**
**Чмель-бухмацік,**
**Захацеў**
**Крыху паспаці.**
**Апусціўся**
**Чмель на кветку,**
**Задрамаў там неўпрыкметку.**
**Ну, а кветачка лагодная**
**Ціха**
**Чмеліка пагойдвае.**
**Сняцца сны яму**
**Чароўныя,**
**Сняцца соты,**
**Мёду поўныя.**

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

### КАЛІ Ж ЯБЛЫЧКІ

**Май прыйшоў.**
**Дзівосны пах.**
**Квеценьбелая ў садах.**
**Добра нам у пенным моры.**
**Толькі ж вішанькі не скора.**
**Толькі ж яблычкі — калі!**
**Ані знаку на галлі.**
**Ад пялёстка і да плода**
**Лета цэлае ў прыроды.**

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

### КАЛЯ ФАНТАНА «ХЛОПЧЫК НА ДЭЛЬФІНЕ»

**Скача хлопчык на дэльфіне**
**З вадзяным бічом,**
**Хвацкі звер на дно не скіне**
**Смелае хлапчо.**

**Пырскі веерам агністым**
**Падаюць на твар,**
**А на шыі звіс маністай**
**Кропелек янтар.**

**Дык імчы, дэльфін, імкніся**
**Між кіпучых хваль!**
**Гэй, ляці, маленства, рвіся**
**У люстраную даль.**

Іван СІНЯЎСКІ

## ЗЯЛЁНАЯ ХМАРКА

Так вялося здаўна: кожны першакласнік на школьнай алеі павінен быў пасадзіць дрэўца.

Сяргейка прынёс два дрэўцы: яблыньку і вішаньку. Настаўніца сказала пасадзіць яблыньку. Сяргей пасадзіў.

— А што рабіць з вішанькай? — спытаў ён.

— Кінь ты яе, — параіў хтосьці з вучняў.

Паглядзеў Сяргейка на вішаньку. Была яна невысокая, як і сам ён. І галінкі без лісця, яшчэ толькі ў пупышках. Карэньчыкі густа перапляліся, нібы тая сетачка. Пашкадаваў Сяргейка вішаньку. «Кіну, дык яна ссохне, — падумаў ён. — Не [illegible]ба пасадзіць».

[illegible] а ён узяў рыдлёўку, выйшаў на вуліцу і на ўзгорку, каля паркана, выкапаў ямку. Пасадзіў у яе вішаньку, паліў вадою.

Убачыў вішаньку Сяргейкаў дзядуля, сказаў:

— Марная твая праца, унучак. Зломіць хто-небудзь.

Сяргейка і сам думаў: мабыць, не месца тут, на вуліцы, дрэўцу. Але кожны дзень паліваў. А каб часам не зламаў ве[illegible] убіў у зямлю калок і прывязаў да яго вішаньку.

[illegible]ўў тыдзень, другі... Вішанька стаяла. Людзі абміналі яе, ніхто і галінкі не зламаў. А ў адну вясновую раніцу яна прыбралася ў лісце, стала падобнай на зялёную хмарку. І Сяргейка з палёгкай уздыхнуў:

— Будзе жыць мая хмарка!

## ЗАГАДКІ

Двое водзяць,
Двое носяць,
Двое трымаюць,
Калі што спаймаюць.
(Вочы, ногі, рукі)

Даўганосы, даўганогі, прыляцеў з далёкай дарогі.
(Бусел)

Іх сарваць хацелі —
Кветкі ўзляцелі.
Гэта былі...
(Матылі)

Падыходзіць к дому стала, з неба сонейка украла.
(Ноч)

Бачылі, за хатаю
Ён зямельку кратае,
Точыць агарод?
Ну, вядома, —
(Крот)

Яшчэ загадка:
У дрэве — хатка,
Арэшкаў — горка.
Гаспадыня —
(Вавёрка)

## СМЯШЫНКІ

— Мама, ты была дзяўчынкай? — пытае сын у маці.
— Была.
— І ў школу хадзіла?
— Хадзіла.
— А з кім жа я дома заставаўся?

***

Маленькі сын прынёс дадому чарапаху.
— Навошта яна табе? — пытаецца маці.
— Хачу праверыць, ці праўда, што чарапаха жыве дзвесце гадоў.



НАШ АДРАС:
МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 905